№6 (169)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Сакавік 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**За мінулы год валавы знешні доўг Беларусі павялічыўся на 5 млрд 300 млн долараў. На 1 студзеня 2014-га ён складаў 39 мільярдаў 124 мільёны 300 тысяч долараў.**

На яго абслугоўванне за год было накіравана 6 млрд 222 млн долараў — больш за 9% Валавога ўнутранага прадукта.

За 2013 год на 438 мільёнаў долараў павялічыўся знешні доўг органаў дзяржкіравання — да 13 мільярдаў долараў. Знешні доўг беларускіх банкаў за мінулы год вырас больш чым на 2 млрд долараў — да 8 мільярдаў, Нацбанка — на 860 млн долараў — да амаль 1 млрд 300 млн долараў.

### У Прыдняпроўі

**На Магілёўшчыне ад моцнага ветра пацярпелі 63 аб'екты, 15 і 16 сакавіка былі сарваны дахі на 26 фермах і 3 жылых дамах.**

Парывы ветра месцамі дасягалі 15-20 м/с.

Найбольш ўсяго пашкоджанняў у Кіраўскім, Крычаўскім, Краснапольскім, Быхаўскім, Касцюковіцкім, Клічаўскім, Асіповіцкім і Магілёўскіх раёнах.

### У раёне

**Па дадзеных Міністэрства працы сацыяльнай абароны на 18 сакавіка 2014 года ў Бялыніцкім раёне было 50 вольных вакансій з 91 працоўным месцам.**

Абсалютная большасць прапанованых вакансій у розных арганізацыях Бялыніцкага раёна прадугледжвае заработную плату да 2 000 000 рублей уключна, на пяці працоўных месцах абяцалі заробак у памеры ад 2 да 3 мільёнаў рублёў. Толькі адна вакансія – трактарыста ў ПМК-82 "Водгас" – прадугледжвала заробак у памеры 4 мільёны рублёў.

Нагадаем, што, згодна афіцыйных дадзеных, сярэдняя заработная плата па народнай гаспадарцы Бялыніцкага раёна ў студзені 2014 года склала 4284,4 тысячы рублёў.

# 25 САКАВІКА – ДЗЕНЬ ВОЛІ

***25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, новай дзяржавы ў Еўропе і свеце. Падзея гэтая істотна паўплывала на далейшы лёс беларускага народа, на стварэнне беларускай дзяржаўнасці. 25 сакавіка сталася нацыянальным святам беларусаў на Радзіме і ў замежжы.***




25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, адроджанай у XX стагоддзі Беларускай дзяржавы. Ідэя незалежнай рэспублікі была выказана на Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 г. Аднак бальшавіцкае кіраўніцтва ў Менску на чале з А. Мясніковым загадала разагнаць з'езд. Незалежніцкія настроі сярод дзеячоў беларускага нацыянальнага руху толькі ўзмацніліся пасля разгону з'езду.

Аднiчасова ў Берасці ішлі мірныя перамовы паміж дэлегацыяй савецкай Расеі і дэлегацыямі Германіі і яе саюзнікаў у першай сусветнай вайне. Савецкая дэлегацыя сарвала мірныя перамовы, і 18 лютага 1918 г. нямецкія войскі пачалі наступ на ўсход. 19 лютага бальшавіцкае кіраўніцтва пакінула Менск і перабралася ў Смаленск. Дзеячы Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага З'езду і Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, якія выйшлі з падполля, абвясцілі сябе Часовай уладай на Беларусі да скліканння Устаноўчага сойму і ўзялі ўладу ў Менску. 21 лютага 1918 г. Выканкам Рады прыняў Першую Устаўную грамату да народаў Беларусі і стварыў першы ўрад Беларусі – Народны сакратарыят Беларусі на чале з Язэпам Варонкам і перадаў яму выканаўчую ўладу ў краіне.

Нямецкія войскі, перад якімі не было перашкод, бо рэшткі расейскіх войск уцякалі ад іх без баёў, занялі Менск і амаль усю тэрыторыю Беларусі. 3 сакавіка 1918 г. быў заключаны Берасцейкі мір паміж Расеяй і Германіяй з яе саюзнікамі. Пасля падпісання Берасцейскай мірнай дамовы незалежніцкія настроі ў Беларусі яшчэ больш узмацнілася. Паводле дагавору Расея адмаўлялася ад часткі тэрыторыі Беларусі па лініі Дзвінск – Свянцяны – Ліда – Пружаны – Берасце. Астатняя тэрыторыя Беларусі лічылася расейскай, але заставалася пад нямецкай акупацыяй да моманту выплаты Расеяй Германіі вялікай кантрыбуцыі. Такім чынам, тэрыторыя Беларусі станавілася закладам у дачыненнях паміж Расеяй і Германіяй. Нямецкія

*(Працяг на стар. 4)*

# ЦІ ПАТРЭБНЫ ВЁСКАМ ШКОЛЫ?

***У аграгарадку Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна у будынку мясцовай сярэдняй школы вечарам 14 сакавіка адбыўся бацькоўскі сход, на якім прадстаўнікі аддзелу адукацыі Бялыніцкага райвыканкама распавялі бацькам вучняў пра тое, як добра чыноўнікі працуюць.***

Сход быў сабраны па ініцыятыве аддзела адукацыі ў адказ на пісьмовыя звароты бацькоў вучняў Машчаніцкай сярэдняй школы ў органы выканаўчай улады з патрабаваннем не дапусціць закрыцця старэйшых класаў у гэтай школе і ператварэння школы з сярэдняй у базавую.

Начальнік аддзела адукацыі Бялыніцкага райвыканкама Лідзія Шчацінка адзначыла, што яна ўпершыню пабачыла столькі людзей на бацькоўскім сходзе ў Машчаніцкай сярэдняй школе, хаця неаднаразова бывала на падобных мерапрыемствах. Лідзія Аляксандраўна паведаміла, што бацькоўскі сход сабраны як мера рэагавання на звароты бацькоў вучняў у органы выканаўчай улады, распавяла пра плённую працу аддзела адукацыі Бялыніцкага райвыканкама, аднак так і не адказала на галоўнае пытанне – ці будзе ў наступным навучальным годзе ў Машчаніцкай школе 10 клас, і ці застанецца школа сярэдняй?




Гэта пытанне было асноўным у бацькоў вучняў, яны задавалі яго неаднаразова на працягу схода, аднак начальнік аддзела адукацыі так і не дала на яго канкрэтнага адказу, абмяжоўваючыся агульнымі фразамі пра клопат з боку РАНА пра ўсіх вучняў Бялыніцкага раёна і пра тое, колькі высілкаў супрацоўнікі аддзела адукацыі і настаўнікі прыкладаюць для арганізацыі навучальнага працэса.

Адзінае канкрэтная інфармацыя, якую дазволіла сабе паведаміць вяскоўцам райвыканкамаўская чыноўніца – гэта тое, што пытанне пра далейшы лёс школы будзе вырашана да траўня месяца і пра рашэнне слаўных бялыніцкіх чыноўнікаў бацькі вучняў абавязкова даведаюцца.

Таксама Лідзія Аляксандраўна выказала вялікую заклапочанасць лёсам Бялыніцкага прафесійна-тэхнічнага ліцэя, у якім пяцьсот навучальных месцаў, а вучыцца ўсяго крыху больш за восемдзесят навучэнцаў. Склалася ўражанне, што Лідзія Шчацінка лічыць вышэйшую адукацыю не вельмі патрэбнай для вясковых дзяцей…

У выніку, не атрымаўшы ніякага адказу ад чыноўнікаў на ніве адукацыі, бацькі навучэнцаў Машчаніцкай СШ па ўласнай ініцыятыве спынілі бацькоўскі сход і разышліся па хатах.

“Для людзей засталося абсалютна не зразумелым, дзеля чаго наогул было арганізоўваць бацькоўскі сход. Навошта было яго праводзіць, калі няма сказаць нічога канкрэтнага па асноўнаму хвалюючаму пытанню, - выказвае меркаванне ўдзельнік сходу, журналіст Барыс Вырвіч. – На маю думку, чыноўнікам проста патрэбна было паставіць “птушачку”, што яны адрэагавалі на звароты і сустрэліся з людзьмі. Ну а тое, што чыноўнікі і настаўнікі ў нас вельмі добрыя, а бацькі і вучні не цэняць іх тытанічную працу на ніве адукацыі, мы і так ведаем.

За апошнія гады ў рэканструкцыю Машчаніцкай СШ “убухана” процьма грошай. Калі чыноўнікі лічаць школу неперспектыўнай, то хто адкажа за нерацыянальнае выкарыстанне грашовых сродкаў з бюджэту? Таксама я асабіста лічу, што раённыя ўлады павінны папярэджваць усіх маладых спецыялістаў аб тым, што, калі яны клапоцяцца пра лёс сваіх дзяцей, ехаць жыць і працаваць у аграгарадок Вялікая Машчаніца няма ніякага сэнсу”.

Згодна атрыманай інфармацыі, бацькі вучняў Машчаніцкай СШ зараз рыхтуюць звароты ў вышэйстаячыя інстанцыі краіны, бо, на іх думку, бялыніцкія раённыя ўлады не могуць (ці не хочуць) даць нейкага

*(Заканчэнне на стар. 3)*

# ЦІ ПАТРЭБНЫ ВЁСКАМ ШКОЛЫ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*

канкрэтнага адказу пра далейшы лёс сярэдняй школы. Больша за тое, бацькі ўпэўненыя, што аддзел адукацыі Бялыніцкага райвыканкам ужо прыняў рашэнне не адчыняць 10 клас у Машчаніцкай СШ у наступным навучальным годзе, проста яго пакуль не агалошваюць, каб не бударажыць мясцовых жыхароў яшчэ больш напярэдадні выбараў у мясцовыя Саветы.

Адзначым, што жыхары аграгарадка Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна 11 сакавіка накіравалі калектыўны зварот на імя начальніка ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама. У сваім звароце жыхары аграгарадка патрабавалі ад упраўлення адукацыі захаваць у Машчаніцы сярэднюю школу, якую мясцовыя ўлады без правядзення ўсялякага грамадскага абмеркавання збіраюцца ператварыць у базавую.




Раней зварот на імя старшыні Бялыніцкага райвыканкама Мікалая Кадаценкі накіраваў мясцовы журналіст Барыс Вырвіч. У звароце ён папрасіў Бялыніцкі раённы выканаўчы камітэт не прымаць паспешлівых і неабдуманных рашэнняў, тым больш, што рашэнне аб ператварэнні Машчаніцкай СШ у базавую рыхтавалася да прыняцця без правядзення агульнага сходу бацькоў вучняў, якія навучаюцца ў школе, і правядзення грамадскага абмеркавання.

Дарэчы, начальнік аддзела адукацыі Бялыніцкага райвыканкама Лідзія Аляксандраўна Шчацінка ўзначальвае раённую арганізацыю РГА “Белая Русь”, а ўсе старшыні сельвыканкамаў у Бялыніцкім раёне з’яўляюцца сябрамі гэтай арганізацы.

Вось так слаўныя прадстаўнікі “Белай Русі” падтрымліваюць жыхароў вёскі…

***Багдан Іваноў***

## БЕЛЫНИЧСКИЙ РАЙОН ОДОЛЕВАЕТ ГОНОРЕЯ

***В регионах Могилевской области растет количество пораженных венерическими заболеваниями.***

В 2013 году в области было зарегистрировано на 55 пораженных сифилисом больше, чем в году предыдущем. И если в Могилеве заболеваемость этим опасным недугом снизилась на 10 %, то в Бобруйске на 60 % возросла, а в районах области она в общей сложности увеличилась почти вдвое.

Наибольшая заболеваемость сифилисом в Климовичском, Кричевском, Краснопольском, Дрибинском и Мстиславском районах. Заражаются чаще молодые люди в возрасте 18-39 лет, нередко – во время поездок на работу в ближнее зарубежье. Более чем в половине случаев заражение происходит в состоянии алкогольного опьянения.




Заболеваемость гонореей в 2013 году также выросла на 22 % по сравнению с 2012 годом, особенно в Чаусском, Белыничском, Могилевском, Славгородском районах и Могилеве.

***Валентина Соколовская***

## БЕЛАРУСІ ІНФЛЯЦЫЯ З ПАЧАТКУ ГОДА СКЛАЛА 3,6%

Інфляцыя з пачатку года склала 3,6% пры гадавым прагнозе 11%. Індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі ў Беларусі ў лютым, у параўнанні са студзенем, вырас на 2%.

Больш за ўсё ў лютым у параўнанні з папярэднім месяцам падаражэлі: цукар і бульба – ў межах шасці працэнтаў, сыры – на 5%, масла – на 4%, рыба і морапрадукты — на 2,6%. Разам з тым на шэраг прадуктаў цэны нязначна знізіліся: гэта алей, яйкі і гародніна.

Усе нумары газеты “Паходня” можна прачытаць у інтэрнэце па адрасе: http://kamunikat.org/pachodnia.html

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# 25 САКАВІКА – ДЗЕНЬ ВОЛІ

*(Працяг. Пач. на стар. 1)*

акупанты, заняўшы Менск, забралі грашовую касу Народнага Сакратарыяту, скінулі з яго будынка беларускі бела-чырвона-белы сцяг і забаранілі палітычную дзейнасць. Нягледзячы на гэта, Выканкам Рады Усебеларускага з’езду працягваў сваю дзейнасць.

9 сакавіка 1918 г. Выканаўчы (Спаўняючы) Камітэт Рады выдаў Другую Устаўную грамату да народаў Беларусі, у якой акрэсліваўся дзяржаўны лад Беларусі, вызначаліся правы і свабоды яе грамадзян. Фармальна была абвешчана Беларускай Народная Рэспубліка, але нічога не гаварылася аб адносінах з савецкай Расеяй, якая лічыла Беларусь сваёй тэрыторыяй. Да склікання Устаноўчага Сойму заканадаўчая ўлада заставалася ў руках Рады Усебеларускага з’езду, а выканаўчая і адміністратыўная – у Народнага Сакратарыяту. 18 сакавіка 1918 г. Рада Усебеларускага з’езду была пераўтворана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), як яе вышэйшы заканадаўчы орган.

Аднак у Другой Устаўной грамаце не вызначалася дакладна тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі і нічога не гаварылася аб дачыненнях Беларусі з іншымі дзяржавамі, і ў першую чаргу з Расеяй. У гэты ж час беларускія дзеячы з Віленскай Беларускай рады цалкам сталі на незалежніцкія пазіцыі. 18 сакавіка 1918 г. 6 сяброў Віленскай Беларускай рады (у тым ліку Антон і Іван Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі) былі кааптаваныя ў склад Рады БНР, што ўзмацніла незалежніцкую групоўку ў складзе Рады. Незалежніцкія настроі таксама пашырыліся яшчэ і таму, што Германія адмовілася прызнаць Другую Устаўную грамату і Беларускую Народную Рэспубліку і разглядала тэрыторыю Беларусі (акрамя Гарадзеншчыны) расейскай тэрыторыяй, якую давядзецца вярнуць Расеі.

23 сакавіка 1918 г. дэлегацыя сяброў Рады БНР прыехала з Вільні ў Менск. Адразу ж Антон Луцкевіч прапанаваў Народнаму Сакратарыяту абвясціць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Папярэдне гэтая прапанова была абмеркаваная на паседжанні фракцыі партыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады БСГ у Радзе БНР. Пасля абмеркавання і спрэчак фракцыя прыняла гэтую прапанову аднагалосна. 24 сакавіка а 8-й гадзіне вечара пачалося пленарнае паседжанне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. З дакладам “Палітычнае становішча Беларусі” выступіў старшыня фракцыі БСГ Аркадзь Смоліч. Ён прапанаваў прыняць адпаведную Устаную Грамату з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. Супраць незалежнасці, за аўтаномію Беларусі ў складзе Расеі выступілі прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў, кааптаваныя ў Раду яшчэ 20 лютага 1918 года – прадстаўнікі земстваў і гарадскіх дум, амаль усе рускія, а таксама прадстаўнікі яўрэйскіх сацыялі-стычных партый. Большасць, якую складалі сябры БСГ, аднадушка выступіла за абвяшчэнне незалежнасці. Пасля доўгіх і бурных спрэчак а 8-й гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 года большасцю галасоў сяброў Рады БНР была прынята Трэцяя Устаўная грамата. Супраць прыняцця граматы (а значыць і

*(Заканчэнне на стар. 5)*

## УСТАУНАЯ ГРАМАТА

### РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо расійскаго царызму, які найцяжэй прыціснуу быу Беларусь; ні пытаючыся народу, ён укінуу наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускіе.

Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскіе цары на наш вольны і нізалежны край.

Ад гэтаго часу **Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца Нізалежнай і Вольной Дзяржавай.** Самі народы Беларусі, у асобі свайго **Устаноучаго Сойму**, пастановяць аб будучых дзяржауных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтаго трацяць сілу усе старыя дзяржауныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі.

На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае уваісьці у адносіны з зацікауленымі старанамі, прапануючы ім пераглядзіць тую часьціну **Берэсьцейскаго Трактату**, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваенаушымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: **Магілеушчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігоушчыны і сумежныя часьці суседніх губерняу, заселеныя беларусамі.**

Беларуская Народная Рэспубліка падцьверджывае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народау Беларусі, якія абвешчаны **Устауной Граматай ад 9 сакавіка 1918 году.**

Абвешчаючы аб нізалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што **усе любячые волю народы** дапамогуць беларускаму народу у поунай меры здейсьніць яго палітычна-дзяржауные ідэалы.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Дана у Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 году.

# 25 САКАВІКА – ДЗЕНЬ ВОЛІ

*(Працяг. Пач. на стар. 1,4)*

незалежнасці Беларусі прагаласавалі прадстаўнікі земстваў і гарадскога самакіравання (з рускамоўнай інтэлігенцыі) і яўрэйскай сацыялістычнай партыі Бунд. Пасля прыняцця Трэцяй Устаўнай граматы яны выйшлі са складу Рады БНР. Сябры Аб’яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі і расейскія эсэры ад галасавання ўстрымаліся.

Ад часу прыняцця Трэцяй Устаўной граматы Беларусь абвяшчалася незалежнай, вольнай ад якіх-небудзь дзяржаўных сувязяў і саюзаў краінай. У тэксце граматы гаварылася: “Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай”. Берасцейская мірная дамова не прызнавалася Беларускай дзяржавай. У дзяржаўным акце 25 сакавіка былі зацверджаныя ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян Беларусі, якія абвяшчаліся яшчэ Другой устаўной граматай. Была вызначана і тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ўключала землі, “дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ, а ўласне: Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных частак суседніх губерніяў, заселеных беларусамі”. Аб будучых дзяржаўных сувязях павінны былі вырашаць самі беларусы ў асобе Устаноўчага Сойму.

Такім чынам, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі самастойнай і незалежнай дзяржавай было юрыдычным актам, які ўзнаўляў дзяржаўнасць беларускага народа, страчаную ў канцы XVIII стагоддзя ў выніку захопу тэрыторыі Беларусі Расейскай імперыяй падчас трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Акт 25 сакавіка 1918 года быў лагічным наступствам дзейнасці Усебеларускага з’езду ў снежні 1917 г.. Гэты акт зрабіў цалкам легальнай далейшую дзейнасць Рады БНР і яе ўраду ў 1918 годзе і ў наступны перыяд.

З актам 25 сакавіка 1918 года вымушаныя былі лічыцца і нямецкія акупанты, якія афіцыйна не прызналі БНР, але не здолелі спыніць дзейнасць Рады і ўраду БНР у галіне адукацыі, культуры, сацыяльнай палітыкі і палітычнай дзейнасці ўвогуле. З актам 25 сакавіка лічыліся і іншыя дзяржавы, якія прызналі незалежнасць Беларусі, у тым ліку Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Украіна, Чэхаславакія.

Урэшце і бальшавіцкі ўрад у Маскве вымушаны быў лічыцца з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. У лістападзе 1918 г. у Маскве адбыліся перамовы прэм’ер-міністра БНР Антона Луцкевіча з прадстаўнікамі савецкага ўраду аб прызнанні Расеяй незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак перамовы былі спыненыя, і ўрад Леніна прыняў іншы варыянт: пасля адыходу нямецкіх войск заняць часткамі Чырвонай Арміі тэрыторыю Беларусі. 1 студзеня 1919 г. у Смаленску была абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь. Такім чынам, утварэнне БНР вымусіла бальшавіцкі ўрад Расеі стварыць хоць і фармальную несамастойную савецкую рэспубліку, але ўсё ж як нацыянальную.



**Герб БНР**

Дзень 25 сакавіка 1918 г. з’яўляецца святам беларускага народа, Днём Незалежнасці. У наш час акт 25 сакавіка застаецца сімвалам барацьбы беларусаў за сваю незалежнасць, за самастойную і суверэнную дзяржаву, супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі.

***Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар***

## БЕЛЫНИЧСКИЕ АКТИВИСТЫ «ГОВОРИ ПРАВДУ» БУДУТ САЖАТЬ ДЕРЕВЬЯ

***Координатор кампании «Говори правду» по Белыничскому району Пётр Шимбалёв 12 марта побывал на приёме у главного архитектора Белыничского района Дмитрия Давыдова.***

- Вместе с главным архитектором района мы обсудили вопрос о необходимости зелёных насаждений возле нового дома по улице Энгельса, — рассказывает Пётр Шимбалёв. – Дмитрий Давыдов пообещал мне, что уже в ближайшее время подъедет лично к этому месту, сделает необходимую разметку, ну и после этого мы займёмся посадкой деревьев. Просто необходимо, чтобы наши родные Белыничи выглядели ещё красивее.

По словам Петра Шимбалёва, во время беседы с главным архитектором Белыничского района он также поднял вопрос о том, что в Белыничах сотрудники местного жилкомхоза очень неаккуратно обрезают деревья, оставляя практически голые столбы. Дмитрий Давыдов проинформировал активиста «Говори правду», что, будто бы, такая усиленная обрезка сучьев у деревьев необходима в целях обеспечения безопасности граждан.

- Я не являюсь специалистом в сфере озеленения, поэтому планирую проконсультироваться по этому вопросу в организации «Экодом», — говорит Пётр Шимбалёв. – Но, честно говоря, столбы вместо деревьев в Белыничах выглядят просто ужасно. Ну а уже после получения необходимой консультации будем планировать свои дальнейшие действия.

***Ирина Беганкина***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ВЯДОМАЯ ЗНАХАРКА АДКРЫЛА Ў БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ АГРАСЯДЗІБУ

***Чвэрць стагоддзя таму, калі большая частка жыхароў Савецкага Саюза замірала перад тэлевізарамі ў час сеансаў Кашпіроўскага, «чысціла» ля экранаў ваду пад маўчанне Чумака, аб сабе заявіла і сельская знахарка Конюхава, якая лячыла хворых рукамі, калодзежнай вадой і глінай. Яе метадамі зацікавіліся вучоныя, а хворыя гадзінамі стаялі ў чэргах да яе. Ці шукаюць паратунку людзі ў Фядоры Данілаўны зараз? Як жыве яна сёння, у чым наогул яе феномен? За адказамі на гэтыя пытанні я і адправілася ў вёску Пільшычы Бялыніцкага раёна.***

## Вада — гэта наша памяць

Вялізны двор, за якім шуміць векавы лес, за гэты час папоўніўся новымі гаспадарчымі будынкамі і трохпавярховай гасцініцай. Гаспадыня сядзібы выглядае нічога сабе ў свае амаль дзевяноста гадоў, жвава адчыняе дзверы ў хату, запрашаючы на чыстую палавіну. У чырвоным куце — шмат'ярусная набажніца, дзе разам з іконамі занялі свае месца старыя фотакарткі. Сярод іх кідаецца ў вочы мужчына з вусамі і ў форменнай кепцы.

— Гэта дзед Піліп. Пры жыцці ён быў ваенным, а зараз, як мой анёл-ахоўнік, дапамагае ва ўсіх справах, — тлумачыць Фядора Данілаўна. — Таму яго карткі я развесіла ў розных пакоях.

Яна сцвярджае, што менавіта дзед, які прыходзіў ёй у снах, адным з першых наказаў унучцы лячыць людзей вадой. «Яна ў Пільшычах асаблівая, — адзначае жанчына. — З ёй ніякая другая не параўнаецца. Вада — гэта наша памяць».

Сама, кажа, у свой час пасля вельмі цяжкай аперацыі акрыяла дзякуючы мясцовай вадзе. І калі кудынебудзь едзе, заўсёды бярэ яе з сабой у дарогу. Сёння ў Пільшычах налічваецца аж шэсць Фядорыных калодзежаў. Першы яны з маці выкапалі яшчэ ў сорак пятым, калі вярнуліся з эвакуацыі.

## На правах прадпрымальніка

У доказ сваіх слоў гаспадыня шукае патрэбныя лісты ў стосе папак: «Вось, глядзіце, яе аналіз яшчэ ў канцы васьмідзясятых гадоў вучоныя з Масквы зрабілі. Так і напішыце. А то некаторыя пабывалі тут, а потым панапісвалі, быццам я бяру за лячэнне па 800 тысяч рублёў. А гэта не так. Калі хтосьці лічыць патрэбным падзякаваць, яго права. Цану я не назначаю».




Дарэчы, ажыятажу сярод наведвальнікаў зараз няма. Гасцініца на дваццаць месцаў пустуе, але дзверы адчынены.

— Тут можна ежу прыгатаваць, адпачыць, — Фядора дэманструе кухню з сучаснай мэбляй, гасціную, санвузлы, пакоі. Мясцовыя жыхары расказалі, што частку выдаткаў на будаўніцтва сельскага гатэля ўзяў на сябе ўдзячны маскоўскі бізнесмен, якога вылечыла знахарка.

## Аніякай «хіміі»

Пакуль мы прайшліся з «экскурсіяй» па падворку і будынках знахаркі, да хаты пад'ехалі дзве машыны. Маладая пара размаўляць наадрэз адмовілася. А вось вадзіцель другога аўто ахвотна паведаміў, што прывёз да Фядоры сваю дачку. «Сам з Бабруйска, з Фядорай Данілаўнай мы даўнія знаёмыя», — расказаў Генадзь.

— Як лячу? Здымаю бруд з энергетычнага поля людзей, — тлумачыць знахарка. — Хаця медыцынскай адукацыі ў мяне няма, дый усяго шэсць класаў закончыла, затое маю сілу ў руках, якія адчуваюць збой арганізма. А поглядам магу нават бумагу прапаліць.

Хваробы, лічыць яна, з'яўляюцца ад таго, што чалавек жыве не так, як трэба. Напрыклад, просіць у Бога здароўя, а таго няма, каб потым падзякаваць яму, памаліцца. «Хімія» таксама пазбаўляе сілы. Сама Конюхава харчуецца ўласнай садавінай і гароднінай. Нават хлеб час ад часу выпякае. Гарбату паважае на травах, якія сабраны непадалёк ад падворка. «Наша зямля, — кажа, — мае вялікую энергію. І яе трэба паважаць. Для мяне самы лепшы адпачынак —

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# ВЯДОМАЯ ЗНАХАРКА АДКРЫЛА Ў БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ АГРАСЯДЗІБУ

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

у месцы, дзе нарадзілася, дзе жылі мае продкі». А яшчэ раіць захоў-ваць раўнавагу пры любых абставінах, у адказ на дабрату рабіць добрыя справы.

Бліжэйшыя суседзі часам таксама шукаюць паратунку ў свайго «доктара».

— Калі жывот балеў, я пайшла да Фядоры Данілаўны, папі-ла вады з яе калодзежа — і як рукой усё зняло. Потым больш і не хварэла, — расказала староста вёскі Пільшычы Ганна Бучманава. — Забягаю да яе і як паштальён.

## «Магу пайсці на эксперымент»

У арсенале лекавых методык Фядоры ёсць і лячэнне глінай. Капаюць яе таксама непадалёк ад дома. «Галаву ломіць ці ногі — трэба іх намазаць глінай», — раскрыла сакрэты знахарка. Сама, кажа, нават унутр яе прымае, разам з вадой. І патлумачыла, што «тут галоўнае — ведаць, у чыіх руках гліна да гэтага была. І што «ў дрэнных людзей наогул нічога браць не трэба».

Сярод мясцовых жыхароў яркіх выпадкаў пазбаўлення ад сур'ёзных хвароб няма, але ў цэлым, сцвярджае Конюхава, дапамагала многім. «Я, — кажа, — магу пайсці на эксперымент: узяць чалавек дзесяць дзяцей з захворваннямі скуры і вылечыць іх».

Жыццё жанчыны, як і ўсяго яе пакалення, простым не назавеш. Перажыла Вялікую Айчынную, якая забрала бацьку, потом падымала народную гаспадарку ў мясцовым калгасе, затым — у Казахстане. Але вярнулася на малую радзіму. З родных сёння засталіся толькі дачка ды ўнучка. «Зараз хвалюе толькі адно: што будзе з калодзежамі, калі мяне не стане?» — кажа Фядора Данілаўна.

Дарэчы, у апошні час састаў вады на ўнікальнасць у іх ніхто не правяраў. Але Бялыніцкі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі аналіз яе робіць пастаянна. «Па мікрабіялагічных паказчыках вада там у норме, а колькасць нітратаў у два разы ніжэй дапушчальнай планкі, — удакладніла галоўны ўрач цэнтра Алена Дамарацкая. — Так што піць можна».

Выконваючы абавязкі старшыні Цяхцінскага сельвыканкама Аляксандр Цыбульскі ўспамінае, што ў дзевяностыя гады, калі ён яшчэ ў школу хадзіў, пра Конюхаву ведалі ўсе ў раёне. Кожны дзень да знахаркі прыязджалі па дваццаць—трыццаць машын з беларускімі, расійскімі, украінскімі нумарамі. Нават фільм здымалі.

Верыць у яе магчымасці ці не? Кожны адказ на гэтае пытанне шукае сам. З аднаго боку, чалавеку заўсёды хацелася спадзявацца на цуд. З другога — застаюцца сумненні: а ці бывае ён наогул?

***Святлана МАРКАВА, «Рэспубліка»***

# В ШКЛОВЕ НАШЛИ НАРКОТИКИ

Пакеты с семенами мака и 15 полимерных бутылок с веществом коричневого цвета обнаружили сотрудники группы по наркоконтролю и противодействию торговле людьми и межрайонного отдела главного комитета судебных экспертиз 11 марта в Шклове. Пакеты с маком (около 20 кг) и бутылки нашли в бытовом мусоре во дворе дома, принадлежащего неработающему ранее судимому за незаконный оборот наркотических средств 44-летнему местному жителю.

Как пояснил начальник управления специальных и технических экспертиз управления Государственного комитета судебных экспертиз по Могилевской области Игорь Чёрствый, будут назначены соответствующие экспертизы на предмет установления, являются ли изъятые объекты наркотическими веществами. Как показывает практика, из семян мака кустарным способом изготавливается экстракционный опий, который является опасным наркотическим средством.

По данному факту проводится проверка.

# МАГІЛЁЎСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ІНТЭРНЭТ-САЙТ ХАЦЕЛІ "ПАДСТАВІЦЬ"

***14 сакавіка на незалежным магілёўскім інтэрнэт-сайце "Свабодны фармат" з'явілася два артыкулы, аўтарам якіх значыўся Алесь Ленеўскі, які з'яўляецца ўладальнікам дамена formats.by.***

У выстаўленых на сайце матэрыялах утрымлівалася інфармацыя паклёпніцкага зместу ў адносінах шэрагу грамадскіх і палітычных актывістаў Магілёўскай вобласці, абражаліся іх гонар і годнасць.

Таксама з сайта formats.by зніклі абсалютна ўсе запісы з 9 верасня 2013 года.

Магілёўскія журналісты, якія раней супрацоўнічалі з рэдакцыяй "Свабоднага фармата", заяўляюць, што пасля старту 10 лютага іх новага праекту moloko-milkmag.by яны не публікавалі ніякіх новых навін на сайце "Свабодны фармат".

Экс-рэдакцыя "Свабоднага фармата" сцвярджае, што матэрыялы паклёпніцкага зместу былі змешчаны на сайце шляхам узлому дамена і публікуе афіцыйнае абвяржэнне гэтых матэрыялаў (http://formats.by/lyudzi/oficialnoe-oproverzhenie).

Неабходна адзначыць, што апошнім часам на пэўных інтэрнэт-рэсурсах Магілёўскай вобласці рэгулярна пачалі з'яўляцца публікацыі паклёпніцкага зместу пра дэмакратычных актывістаў і незалежных кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў Магілёўскай вобласці. На электронныя адрасы некаторых мясцовых журналістаў хтосьці дасылае лісты са спасылкамі на такія матэрыялы. Такі ўсплеск актыўнасці слаўных працаўнікоў на ніве паклёпу і правакацыі мясцовыя прадстаўнікі журналісцкай супольнасці звязваюць з маючымі адбыцца ў хуткім часе выбарамі дэпутатаў мясцовых Саветаў.

***Барыс Вырвіч***

## Анекдот дня

Синоптики не ошибаются - они просто часто путают время и место.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПОДУШКА БЕЗОПАСНОСТИ, ИЛИ ПОЯС ВЕРНОСТИ

***18816 депутатов будет избрано в местные советы.***

Местные советы, как и Национальное собрание, ничего в нашей стране не решают. Тогда зачем, спросите вы, вся эта катавасия с "выборами депутатов местных советов"?

Если хорошенько задуматься, действительно: зачем государство тратит огромные деньги на всякие выборы? Ответ прост – это одна из форм работы с гражданским обществом, форма изощрённого контроля власть имущих над своими подданными. Очередная возможность рабам выбрать себе хозяев на местах.

Представьте себе: живёте вы в каком-нибудь Малом Ситне, коровам хвосты крутите, или врачом где-нибудь в Глубоком по участкам бегаете.

И тут, значит, вызывает вас к себе представитель местной власти и предлагает стать депутатом местного совета. Вы, конечно, сразу откажетесь: зачем, дескать, я ведь ничего этого не знаю и делать не умею. А ничего знать, а тем более - делать не надо, скажут вам. Вам оказано высокое доверие стать депутатом (одеть пояс верности, образно выражаясь). А когда настанет время президентских выборов, надо будет сгонять народ в вашем селе-городе на эти "выборы", да ещё два раза в год проголосовать "за" на местном собрании. Ну и на выборах проголосовать за кого надо.

Зато депутатский мандат будет вам служить подушкой безопасности от произвола ГАИ, да и в милиции, если загребут по пьянке, сразу дубиной по голове махать не станут. Опять же связи кой-какие появятся. Там же в городских советах сплошь директора предприятий заседают, да всякие врачи-учителя, судьи-прокуроры. Любой вопрос решить можно…

Почешете вы репу и с радостью согласитесь. Тем более, что никакие вопросы избирателей вам решать не придётся и обещать никому ничего не надо: все равно выберут, потому что альтернативы в сёлах всё равно нет, а в районо-областных избиркомах всё схвачено.

И не дай Бог выдвинуть свою кандидатуру без согласования с местной властью! Измордуют и вас, и родственников, и вашего работодателя так, что у вас надолго отпадёт охота участвовать в "выборах". Право быть избранным надо давно убрать из Конституции Беларуси.

В каждой участковой комиссии - 20-25 человек, умножив их на 18816 депутатов - получаем почти полмиллиона бойцов-фальсификаторов. Их тоже надо всех проверить перед боем (президентскими выборами): у кого сдали нервы - подлечить, кто вышел в тираж - заменить. В общем, проверка генералом Ермошиной личного состава на верность. Участковые комиссии на 90% состоят из учителей, не зря же Лукашенко назвал их главной опорой власти на местах, и недавно потребовал к своим выборам увеличить им зарплату.




Выборы президента должны пройти в 2015 году, но генеральная репетиция президентской кампании состоится 23 марта.

***Сергей Скребец, для "Белорусского партизана"***

## СЕЛЬХОЗПРОИЗВОДСТВО В БЕЛАРУСИ СОКРАТИЛОСЬ НА 4%

В январе—феврале 2014 года в хозяйствах всех категорий (в сельскохозяйственных организациях, крестьянских (фермерских) хозяйствах, хозяйствах населения) производство продукции сельского хозяйства в текущих ценах составило 10,2 трлн. рублей и уменьшилось по сравнению с январем—февралем 2013 года в сопоставимых ценах на 4%.

В сельскохозяйственных организациях объем производства продукции за этот период уменьшился на 3%.

В январе—феврале текущего года хозяйствами всех категорий республики реализовано скота и птицы на убой (в живом весе) 266,5 тыс. тонн, что на 1,1% меньше, чем за январь—февраль 2013 года, произведено молока составило 970,3 тыс. тонн (на 0,9% меньше), яиц получено 558,7 млн. штук (на 12,9% больше).

## КРАЖА В ТЕТЕРИНО

14 марта Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 212 ч. 2 УК (Хищение путём использования компьютерной техники) в отношении неоднократно судимых, неработающих жителей д. Тетерино, 1978 и 1987 г.р., которые 12 марта в 17-00 в банкомате по ул. Могилевской, с ранее похищенной у односельчанина, 1959 г.р., банковской карточки похитили 1 100 000 руб. Раскрыто ОУР. Задержаны в административном порядке, сообщает uvd.mogilev.by.

## Аб'явы

Шукаем музыкаў для стварэння рок-гурта. Тэлефоны для сувязі: +375 33 677 44 99 (Алег), +375 25 633 96 30 (Ірына).

Ініцыятыўная група па правядзенню "Народнага рэферэндума" шукае валанцёраў для збору подпісаў. Тэлефоны для сувязі: +375 33 677 44 99 (МТС); +375 25 989 15 45 (Life) – Алег.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 18.03. 2014 г. у 08-00.